Гаючая флора

# Сон-трава (гарэзнік раскрыты)

Адна з першых, пяшчотных, прыгожых вясенніх красак. Расце паўсюдна ў сасновых, саснова-бярозавых, саснова-дубовых лясах верасковага, бруснічнага, мшыстага і травянога тыпу, на верасковых пустырах, у бары і ў хмызняках. Нарыхтоўкі магчымы ў абмежаванай колькасці.

Цвіце ў красавіку-траўні. Збіраюць у красавіку, калі кветка ў стадыі званочка, з рознымі нагаворамі і абрадамі. Абрад уключае цэлы шэраг умоў: збіраць толькі па ранішняй расе, падняўшы вышэй кален спадніцу (закасаўшы штаны), каб раса абмыла шчыкалаткі, ікры. Апускаць кветку ў халодную ваду, у ёй яна павінна знаходзіцца да глыбокай ночы, зрываць кветкі толькі на поўні, перад тым, як легчы спаць, трэба доўга ў цішыні глядзець на кветку, ляжачую ў вадзе, і яна абавязкова павінна заварушыцца. Перад сном кветку пакласці пад падушку. Сны сняцца толькі прарочыя. Калі чакае ўдача, шчасце, то прысніцца маладым мужчына ці жанчына. Удачу «прыцягне» да вас у гэтую ноч «зелле».

У лес за сон-травой трэба ісці толькі з лёгкімі думкамі, не жадаючы нікому зла, зрываючы кветку, загадваць тое, што больш за ўсё турбуе, заклапочвае.

У народнай медыцыне знахары пасляхова выкарыстоўваюць «зелле» для лячэння спазмафіліі ў дзяцей («Дзіцяцкае»). Парадзіхам для супакаення болю ў час родаў і паскарэння родаў робяць адвар.

__Рэцэпт:__ бяруць 5 г (2-3 кветкі), заліваюць шклянкай кіпеню. Настойваюць да ахаладжэння. Працэджваюць. П'юць па сталовай лыжцы кожныя 2 гадзіны.

Лячэнне імпатэнцыі «зеллем» — адно са старажытнейшых сродкаў. Зрываць трэба кветкі, калі яны ў бутоне, адразу ж змяшчаць у слоік з вадой.

__Рэцэпт:__ на паўлітра вады — 10 кветак. Дома давесці да кіпення, астудзіць, працадзіць. Можна, прыйшоўшы дадому, дастаць бутоны, выціснуць сок у паўлітэрку гарэлкі. Настойваць 7 дзён у цёмным месцы. Працадзіць. Піць па 30-40 мл штодзённа адзін раз. Вынік будзе абавязкова.

Водны экстракт травы мае моцнае бактэрыцыднае і фунгіцыднае дзеянне. Выкарыстоўваюць яго пры перавязках ран і пры грыбковых захворваннях скуры. Настой рыхтуюць наступным чынам:

10 г здробненай расліны заліваюць 1 шклянкай халоднай вады, астаўляюць на суткі, затым працэджваюць. Прымяняюць вонкава пры захворваннях скуры.

У народнай медыцыне прэпараты расліны ўжываюць як заспакойваючае і снатворвае.

Адвар усёй травы п'юць у малых дозах пры кашлі, жаночых захворваннях, пры рэўматызме націраюцца настойкай травы на гарэлцы. Свежую траву запарваюць у рускай печы без вады і выдзеленым сокам лечаць апёкі.

Пры ўжыванні ўнутр трэба быць асцярожнымі, таму што расліна ядавітая.

Куток гаспадыні

## Вострая закусь з капусты

*1 кг белакачаннай капусты, 100 г бурака, 80 г воцату, 40 г солі, зеляніна сельдэрэю, чырвоны стручковы перац.*

Капусту парэзаць буйной саломкай, буракі — тоненькімі скрылькамі, перамяшаць, дадаць зеляніну сельдэрэю, некалькі кавалачкаў чырвонага стручковага перцу, пасаліць, заліць кіпенем з воцатам так, каб вада толькі пакрыла гародніну. На 2-3 дні аставіць у цёплым месцы. Замарынаваная такім чынам капуста не толькі выдатная закусь, але і гарнір да мясных і рыбных страў.

## Шніцэль з капусты

*1 кг капусты, 1 ст. лыжка мукі, 2 яйкі, 2 ст. лыжкі сухароў, 3 ст. лыжкі алею.*

Белакачанную капусту ачысціць, выразаць храпку і адварыць у падсоленай вадзе да гатоўнасці (калі капусту адварыць у малацэ, яна будзе значна смачнейшай). Перакласці на сіта, даць сцячы, разабраць на асобныя лісты, тоўстыя сцяблы «адбіць» ці зрэзаць. Кожны ліст скласці канвертам, абваляць у муцэ, змачыць у яйку, абваляць у сухарах з абодвух бакоў, абсмажыць. Можна падаваць у гарачым ці халодным выглядзе.

## Пячэнне з морквы

*500 г морквы, 1 шклянка цукру, 2-3 жаўткі, 5-6 ст. лыжак мукі.*

Моркву добра пачысціць, надраць на дробнай драчцы, засыпаць размеленым у кавамолцы цукрам. Даць пастаяць 4-5 гадзін, пакуль маса не стане аднароднай. Дадаць узбітыя жаўткі, муку. Размяшаць. Дадаць соду на кончыку нажа, ваніль, цэдру лімона, карыцу, мёд. Невялічкія шарыкі размясціць на змазаную маслам бляху. Пекчы на сярэднім агні 10 хвілін.

## Пунш з шыпшынай і чырвоным віном

Плады шыпшыны — 50 г — заліць вадой — 0,7 л, аставіць на некалькі гадзін, затым нагрэць і кіпяціць 5 хвілін, пасля чаго працадзіць. Дадаць 100 г цукру і 0,5 л чырвонага сухога віна, зноў падагрэць, але не да кіпення, і нарэшце, дадаць сок аднаго ці двух апельсінаў. Падаць гарачым.

## Кактэйль з яблычным сокам

Змяшчаць: 1 чарку яблычнага соку, 0,5 л лікёру Бенедзіктын, 2 ч.л. цукровага сіропу. Гарнір: чыстую скрачку цытрусавага плоду разразаюць на прамавугольнічкі даўжынёй менш дыяметра бакалаў і кладуць па аднаму такому прамавугольнічку ў кожны бакал.

## Народныя прыкметы

Выціраццa ўдваіх адным ручніком — значыць, неўзабаве пасварыцца.

У больш шырокім плане гэтая прыкмета адносіцца ўвогуле да выкарыстання адной рэчы двума чалавекамі. Напрыклад, нельга піць з адной шклянкі, есці з адной талеркі, адкусваць ад аднаго кавалка. Выключэнне датычыць толькі мужа і жонкі.

Раней лічылася, што пры сумесным карыстанні якой-небудзь рэччу чужы чалавек забірае ва ўласніка частку яго энергіі і нават можа даведацца ягоныя думкі. Насамой справе ў такіх выпадках ён, наадварот, сваім выпраменьваннем змяняе энергетыку прадмета, а гэта ў сваю чаргу можа адмоўна адбіцца на біяполі ўладальніка. Бо ў кожнага з нас свае «балячкі» і няварта перадаваць іх энергетычным злепак.

З бытавога пункту гледжання гутарка ідзе проста аб захаванні элементарных правіл гігіены.

## Прыкметы да госця

— Хлеб ці лыжка за абедам вылецяць з рук — госць спяшаецца.

— Папярхнулася за абедам — госць спяшаецца.

— Куры б'юцца — да гасцей.

## Анекдот для дам

— Марына, чаму не на тым пальцы носіш абручальны пярсцёнак?

— А я не за таго чалавека замуж выйшла.

З народнага лячэбніка

## Старадаўні народны сродак ад сухотаў

Вельмі часта пры сухотах у арганізме хворага не хапае кальцыю. Увядзенне кальцыю ў кроў непасрэдна вельмі балюча. Апроч таго кальцый лепш засвойваецца арганізмам, калі ўводзіцца разам з ежай.

Кальцыевая настойка, альбо кальцыўміт, рыхтуецца з наступных рэчываў:

лімонаў — 10 штук,
яек — 6 штук,
ліпавага мёду — 3/4 фунта,
каньяку — 3/4 шклянкі.

__Спосаб прыгатавання:__ шэсць яек цэлых і свежых кладуць у слоік (яйкі павінны быць абавязкова з белай, а не жоўтай шкарлупінай). Лімоны выціскаюць і іх сокам заліваюць яйкі. Слоік ставяць у прахладным, сухім і цёмным, але не халодным месцы. Слоік накрыць марляй і абгарнуць цёмнай паперай. Трымаць да растварэння шкарлупіння яек, што звычайна бывае праз 5-8 дзён. Далей трэба падагрэць мёд да стану цякучасці, астудзіць і дадаць у агульную сумесь. Затым уліць каньяк.

Пераліць лякарства ў цёмную (абавязкова) бутыль, якую захоўваць у прахладным цёмным месцы, таму што святло раствараe кальцый.

__Доза:__ тры разы ў дзень па адной дэсертнай лыжцы адразу пасля яды.

__Заўвага:__ пры хваробе лёгкіх раяць есці як мага больш фруктаў і тлушчу, а тасама кансерваваны сустой з кававай, гарбатай і фруктамі.

Іншы раз у чалавека зусім здаровага — на целе сыпка ў выглядзе дробненькіх прышчыкаў. Яны моцна свярбяць. Гэта характэрны паказчык недахопу кальцыю ў арганізме. Кальцыўміт за два дні знішчае ўсе прышчыкі і сверб. Доза тая ж, што і пры лячэнні сухотаў.

__Заўвага:__ праз 2-3 тыдні пасля прыгатавання кальцыўміт псуецца. Яго трэба выкінуць і прыгатаваць новы.



Крычаўлянкі. ФОТА Валерыя БЫСАВА.

Народныя замовы

## Ад крываццёку

Знахар моцна сціскае ўказальным і вялікім пальцамі рану і замаўляе тры разы, адплёўваючыся пасля кожнага разу ў правы бок: «Дзёрн, дзярніся, зямля мацуйся, а ты, кроў у раба (такога-сь) утаймуйся!»

Трэба ведаць...

## Сакрэт доўгага жыцця

**Мужчыны, якія зведваюць больш аргазму, жывуць даўжэй, а рэгулярныя заняткі каханнем зніжаюць мужчынскую смяротнасць у два разы.** Аб гэтым сведчаць вынікі англійскага медыка-статыстычнага вывучэння праблемы, апублікаваныя ў «Брытанскім медыцынскім часопісе». Як заявіў на яго старонках адзін з кіраўнікоў даследавання, у якім прымалі ўдзел каля тысячы прадстаўнікоў моцнага полу ва ўзросце ад 45 да 59 гадоў, сексуальная актыўнасць, як відаць, стабілізуе мужчынскае здароўе. Аналагічныя даследаванні, лічаць медыкі, цяпер трэба правесці і сярод жанчын, аб якіх пакуль сабрана недастаткова звестак, каб прыйсці да нейкіх пэўных высноў.

Чаго толькі ў свеце не бывае!

## Іск на 10 мільёнаў

**Уладальнік аднаго з даходных дамоў Нью-Йорка падаў у суд на свайго пастаяльца, які неасцярожна параўнаў яго з бен Ладэнам.**

Нейкі Дэніэл Завілоіц, пакрыўдзіўшыся на домаўладальніка Морыса Германа, у якога ён арандаваў кватэру, расклеіў па ўсяму кварталу плакат з фатаграфіяй «тэрарыста N 1» і подпісам «Асама Морыс Герман. Пол — невядомы, нацыянальнасць — няўдачнік». Прычым асновай для плаката паслужыла фэбээраўская «дзесятка найбольш адшукваемых злачынцаў».

Цяпер Морыс Герман прад'яўляе іск на 10 мільёнаў долараў за маральную шкоду, якую нанёс яму Завілоіц. У тэксце іскавай заявы сказана: «Я дарослы чалавек, і скарыстаюся судом, каб заткнуць яму рот».

## Малпам справілі вяселле

**У румынскім сяле Фелеацу заключылі шлюб... дзве малпы.**

Жыхары сяла спецыяльна арганізавалі ўрачыстую цэрымонію, каб злучыць у законным саюзе Джымі і Луізу, якія ўжо некалькі тыдняў жывуць разам. Па словах відавочцаў, «жаніх» быў вельмі збянтэжаны вялікай колькасцю гасцей і наадрэз адмовіўся выходзіць з клеткі. Затое яго нявеста вельмі радавалася ўсяму, што адбывалася вакол.

Як пішуць мясцовыя газеты, адзіная праблема Луізы была звязана з вясельным уборам. Госці, сярод якіх быў кіраўнік мясцовай адміністрацыі, сказалі тост у гонар навашлюбных.

**Па матэрыялах друку.**




**Абанент N 22**

Ірына. 30 год. Рост — 168 см, вага — 70 кг, інвалід. Чарнявая, адведала боль і расчараванне. Хачу знайсці надзейную «палавінку», быць каханай і кахаць. Пазнаёмлюся з адзінокім матэрыяльна забяспечаным мужчынам ад 30 да 40 гадоў.

**Адрас у рэдакцыі.**

**Абанент N 23**

Таццяна. 42 гады. Рост — 158 см. Сімпатычная, мініяцюрная, гаваркая, вясёлая, з пачуццём гумару, двое дзяцей (сын — 18 год і дачка — 4 гады), банкаўскі работнік. Шукаю сур'ёзнага спадарожніка жыцця да 45 год, маральна ўстойлівага, матэрыяльна забяспечанага, з жыллём. Згодна на пераезд.

**Адрас у рэдакцыі.**

**Абанент N 24**

Эрык. 39 год. Інвалід III гр. Згодзен на пераезд. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Адрас у рэдакцыі.**

Пытанне:

**Як доўга можна ўстрымлівацца ад сексу без шкоды для здароўя?**

**І.Арлоў, г. Горкі.**

## Ці шкодна ўстрыманне?

*Адказвае сексолаг Генадзь Казакоў:*

Устрымлівацца ад сексу можна колькі заўгодна, калі гэта не суправаджаецца неадступнымі думкамі пра секс і, як вынік, моцным палавым узбуджэннем, раздражненнем палавых органаў. Інакш ужо праз два месяцы ў жанчын можа пачацца неўрапатызацыя, запаленне прыдаткаў яечнікаў (ад застою крыві).

У мужчын з нізкім узроўнем спермы ўжо праз 10 дзён зніжаецца рухавасць сперматазоідаў, а тыя, каму за 60, наогул, могуць стаць імпатэнтамі.

Устрыманне шкоднае людзям з пашкоджанай прастатай — можа развіцца хранічны прастатыт.

А як часта трэба займацца каханнем, каб гэта было карысна для здароўя? Для прафілактыкі прастатыту — 2-3 разы на тыдзень, для папярэджання імпатэнцыі — столькі ж, калі вам да 50 год, і 2-3 разы ў месяц, калі вам за 60. Ад 18 да 30 гадоў нармальным будзе па разу за суткі, а калі больш, таксама ня дрэнна — абы хацелася. Толькі без насілля.

"Беларускі Ўсход"

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.
На беларускай і рускай мовах.
*Заснавальнік* — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н,
Магілёўская вобл., 213670.
Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89

**Рэгістрацыйны N 141**
Падпісны індэкс — 64098

*Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.*

*За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.*

Газета падпісана да друку
ў 16 гадзін 21 лістапада 2001 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні,
вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1420 ас.** Аб'ём І друк. аркуш. **Заказ № 42.**